Адам Глобус

# Сняжынка

*Зборнік хайку*

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2022

# ЗІМА

*

Сняжынка ўпала
на брыво і растала,
вось вам і зіма...

*

Праз ціхі горад
ранкам іду па снезе,
як па воблаку...

*

Мароз кусае
за шчокі так, нібыта
захацеў з'есці...

*

Крыжы пад снегам;
вось і ўсё, што магу ска-
заць пра Радзіму...

*

Пасля змрочных дзён
выпаў снег – пасвятлела,
нават на душы...

*

Лісток засохлы
ў малочна-белым лёдзе
гарыць, як зорка...

*

Жабрак у парку
даядае мандарын,
коркі на снезе...

*

Лёд на дарозе,
упадзеш – разаб’ешся,
як ёлачны шар...

*

Чырвоным пяском
пасыпаю няпэўнасць
шэрай адлігі...

*

Ноч падсыпала
снегу, нібы цукровай
пудры на пірог...

*

Дождж падае на
снег, дождж падае на лёд,
дождж... Снег падае...

*

Чуеш – як моцна
адліга пахне вясной?
Не падманвайся...

*

Адліжны ранак,
пад вадасцёчнай трубой
ледзяны слімак...

*

Поле сыходзіць
у туман, пару крокаў –
і ты ўжо ў небе...

*

Ранак, над рэчкай
ляцяць адзін за адным
галасы качак...

*

З цёмнага неба
цярушацца сняжынкі
на светлы горад...

*

У завіруху
па цаліку сунуся,
адзін на ўвесь свет...

*

Снег на далонях
жоўтых дубовых лістоў,
як пачастунак...

*

Сняжынка ляціць
за сняжынкай... Дагоніць
ці не дагоніць?

*

Праз халодны лес
еду ў цёплым вагоне,
думаю паспаць...

*

На ўскрайку поля
сядзяць вожыкі кустоў
у срэбным снезе...

*

Вузкая рэчка
паміж снежных берагоў,
як чорнае шкло...

*

Хата ў тумане,
як успамін пра маіх
дзеда і бабу...

*

Зіма. Прастуда.
Дыхаю парай з бульбы,
мо дапаможа...

*

Іду павольна,
скальзата – на сцежцы лёд
чорны, нібы ноч...

*

У ціхім парку
заспявала жанчына
пад снегападам...

*

Па снегу ў школу
коцяцца дзеці розна-
каляровыя...

*

Сініца за шклом
кажа: «Насып мне семак!»
Як не насыпаць?

*

Чорныя семкі
сыплю на снег – для сініц
трэці раз за дзень...

*

Снег за вокнамі...
З чорнай гарачай кавы
пачынаю дзень...

*

Над рачным лёдам
у студзеньскім тумане
крык качкі ляціць...

*

Парк такі снежны,
такі чысты і ціхі –
стаў бы і стаяў...

*

Снег засыпае
мой горад, мой дом, мяне...
Хутка засыпле...

*

Бутэлька піва
стаіць на свежым снезе,
як каралева...

## Кароткае падарожжа ў бок Вільні

*Прыехаў на вакзал. Сеў у цягнік. Напісаў хайку...*

Снег засыпае
прывакзальную сцежку,
быццам назаўжды...

*Даведаўся, што сустрэча, прызначаная ў Вільні, адмяняецца. Узяў чамаданчык і пайшоў у касы. Здаў квіток. Касірка пералічыла грошы на маю картку. Спусціўся ў метро. Ахоўнік нават не стаў правяраць чамаданчык. Дома выпіў кавы. Тым і скончылася маё самае кароткае падарожжа ў бок Вільні.*

*

У белым полі
рэчка пад чорным лёдам
знерухомела...

*

Плыве няспешна
водар свежага піва
над сумётамі...

*

Вільготна ў парку,
адліга злізвае снег,
нібыта цукар...

*

У сметніц свята –
стаяць усе поўныя
чыстага снегу...

*

Мароз. Сабака
ў ватным паліто ідзе,
нібыта банкір...

*

Чорным матыльком
над снегам ляціць лісток
мінулагодні...

*

З катом на руках
любуюсь зімняй поўняй,
праз дзень сакавік...

*

Зімнія боты
пачышчу і пакладу
ў летнюю спячку...

# ВЯСНА

*

Па коўзкай сцежцы
іду пад дробным снегам,
вясна – не вясна...

*

Распачалася
дэпартацыя снегу
з нашай сталіцы...

*

Парк над рэчкаю
поўны туманаў сівых,
як самагонка...

*

Халодны ранак,
п'янтосы ціха ідуць
да віннай крамы...

*

Праз вясновы парк
па леташняй лістоце
скача вавёрка...

**Чырвонае святло**

*Ішоў па вуліцы Алаізы Пашкевіч і складаў хайку пра сакавіцкую завіруху. Верш не складаўся. Захопленасць паэзіяй ледзь не завяла мяне пад колы аўтобуса. Не заўважыў чырвоны святлафор. Ступіў на дарогу і... спыніўся. Нехта нябачны сказаў: «Стой!»*

*

Свеціцца, блішчыць
нябеснай чысцінёю
лёд у лужынах...

*

Зранку захварэў,
у сонечны й вольны дзень
пад коўдрай ляжу...

*

У небе птушка,
свае худыя лапы
некуды нясе...

*

Варона ў парку
з важкім кавалкам піцы
разбіраецца...

*

Алейнай фарбай
чыста-белая лаўка
пахне на ўвесь парк...

*Учора ў Вільні на вуліцы Шаўчэнкі...*

*

Цёпла, як летам,
толькі вось ніводнага
лістка на дрэвах...

*

Градзінка ўпала,
за каўнер паляцела,
спіну апякла...

*

Ранак... На траве
пабліскваюць расінкі
нябесным святлом...

*

Ледзь чутны ветрык
страсае з пёраў травы
срэбную расу...

*

Спаткаў на сцежцы
самотную галубку,
павіталіся...

*

Колькі дзьмухаўцоў,
лічыць не пералічыць
жоўтыя зоркі...

*

На лаўцы ў парку
сустракае раніцу
вянок з дзьмухаўцоў...

*

Травеньскі ранак –
палёт божай кароўкі
над дзьмухаўцамі...

*

Быццам воблака,
каштан у светлых кветках,
вось-вось паляціць...

*

Белы матылёк,
ведаю – ты прыляцеў
з майго дзяцінства...

*

Корак ад пляшкі
коціцца па дарозе,
вясновы ветрык...

*

Качар з берага
паглядае, як плыве
яго качачка...

*

Грыміць, ракоча
начная навальніца;
ляжу, чытаю...

*

Парк пасля дажджу...
Бліскуча ўсміхаецца
нават сметніца...

*

Спыніла мяне
дрэва, поўнае птушак,
стаяў і слухаў...

*

Малады мастак
едзе на стары хутар
садзіць настуркі...

*Напісаў па дарозе ў Віцебск*

*

У соснах сонца
духмянае, густое
і мядовае...

*

На ровары праз лес,
з хлебнай крамы на хутар,
у адзіноту...

*

Мястэчка Іўе,
светла-жоўтыя дамкі
вітаюць вясну...

*

Праз густы туман
іду ўздоўж ціхай рэчкі
на далёкі мост...

*

Светлыя слупы
праз зялёнае поле
ідуць на хутар...

*

Вавёрка ў траве
стаілася, думае –
я не заўважу...

*

Цётка да грудзей
прыціскае букецік
з трох кацянятаў...

*

Вясновы вецер
гуляе-весяліцца
пад спадніцамі...

# ЛЕТА

*

У летнім парку
піў смачнае паветра –
ажно захмялеў...

*

Жоўтае сонца
ў ціхай азёрнай вадзе
плавіцца й гарыць...

*

На парапеце
мой таварыш – верабей
стаіць скульптуркай...

*

Каля лужыны
шпак думае: купацца
ці не купацца?

*

Радуюць вока
салодка-ружовыя
кветкі каштанаў...

*

Чэрвеньскі вецер,
у белай канюшыне
скача вавёрка...

*

Злавіў на далонь
і ўзважваю пушынку
тапалёвую...

*

Задуха. Дзверы
наросхрыст у легкаві-
ку. Таксоўшчык спіць.

*

Халодны пясок...
З-пад нерухомай вады
пазірае краб.

*

Сажанец паліў
раніцай і вечарам
зноў яго палью...

*

Чорна-сіняя
навальніца з маланкай
ляціць на Друю...

*

Светлы парк стаіць
у вадзе па калені
пасля залевы...

*

Летнія травы
маўклівыя мужчыны
косяць у парку...

*

Адна сарока
сварыцца на цэлую
стаю галубоў...

*

Рудая сцежка
паміж летніх траў вядзе
наўпрост на неба...

*

Танчыў так, што пін-
жак парваў. Жонцы сказаць?
Самому зашыць?

*

У закінутым
садзе наступіў... Не, не...
На гнілы яблык.

*

Спацеў, у высо-
кую траву поўны кан-
дом выкідаю...

*

Узняў галаву...
Ці ведаюць аблокі,
што я іх люблю?..

*

Жоўты матылёк
у прыдарожным лесе
мільгануў і знік...

*

Шэпча малітву,
плюе на кручок рыбак
даўгабароды...

*Расказаў мне знаёмы Жэнік Галдовы.*

*

За лета схуднеў,
прабіваецца ў рэмні
новая дзірка...

*

Ціхае мора,
лёг бы і ляжаў на ім,
на сінім шоўку...

*

У шэрым небе
над гатэлем мільгануў
бумеранг чайкі...

*

Спусціцца ў метро
матылёк паспрабаваў
і перадумаў...

*

Ліпень. У метро
вецер забаўляецца
пад спадніцамі...

*

Першы дзень жніўня,
лядоўня стамілася
і заплакала...

*

Пасярод поля
маленькае пудзіла –
сама самота...

*

Уздымаецца
вогненны хвост ваверкі
над сухой травой...

*

Нядзеля, золак,
па дзіцячай пляцоўцы
ходзяць вароны...

*

На лаўцы ў парку
аматар крыжаванак
моршчыць светлы лоб...

*

Сінія гракі
на зялёнай паляне
прагульваюцца...

*

Падлетак грыбнік
праз залатое поле
ідзе з лесу ў лес...

*15 гадоў таты няма сярод жывых. Адведаў Кальварыю і паклаў хрызантэмы на каменную пліту... Там і ўбачыў хайку:*

Над цёмнай травой
паміж іржавых крыжоў
ляціць матылёк...

*

У кроплі на шкле
чырвоная і жывая
кроў святлафора...

*

Таполі плачуць
і перашэптваюцца
пад ціхім дажджом...

*

Пад летнім ліўнем
елкі прытуліліся
адна да адной...

*

Сваяк расказаў,
што водар аслінніку
зачароўвае...

*

Пяро цыбулі,
скрылік сала, чорны хлеб...
Паем і засну...

*

У нашай Вільні
пыл на летняй дарозе
тонкі, як пудра...

*

Паўночы звінеў
камарык-невідзімка
над самым вухам...

*

Жнівеньскі вецер
птушынай пушыначцы
не дае ўпасці...

*

Сонечны поўдзень,
а ў небе спіць ледзяны
скрылік месяца...

# ВОСЕНЬ

*

Варанай бульбай
у першы дзень верасня
запахла ў Вільні...

*

Праз сталічны парк
бусел павольна ідзе...
Згубіў чараду?

*

Стос летніх кашуль
кладу ў дальні кут шафы,
холад і дажджы...

*

Сухое лісце
коціцца па дарозе
з восені ў восень...

*

Пэўна, пра холад
у вераснёвым парку
крычыць варона...

*

Золак... Галіна,
адламаная ветрам,
спіць сабе ў траве...

*

Залатыя ма-
неты бярозавых ліс-
цяў збірае ўнук...

*

У мокрым парку
залацістае сэрца
падае з ліпы...

*

Няхай пажыве
лісток сухі дубовы
ў кнізе закладкай...

*

Вецер зрывае
апошнюю лістоту
з паркавых клёнаў...

*

Вавёрка скача
па шапаткой лістоце...
Каб павітацца?

*

Прачынаюся
сярод ночы раз, другі...
Смачны быў кавун.

*

Кветкі з анучак
у вераснёвым сонцы
засвяціліся...

*

Вецер... З каштанаў
зялёныя вожыкі
пачалі падаць...

*

Дзеці кідаюць
каштаны ў люстра рэчкі...
Хто кіне далей?

*

Без дай прычыны
кінуў каштан у Свіслач,
нарабіў кругоў...

*

Вярнуўся дамоў
з каштанам у кішэні –
і ўвесь набытак...

*

Зірнуў на жолуд,
раптам зажадалася
выгадаваць дуб...

*

Хлопчык са сцежкі
падымае жалуды,
пазнаю сябе...

*

З прагулкі ў парку
тры жалуды ў кулаку
прынёс дадому...

*

Нахіляюся,
падымаю жолуд з травы,
кладу ў пальчатку...

*

У каго спытаць:
помніш, як мы рабілі
цацкі з жалудоў?

*

Скача-танцуе
вавёрка на кіліме
з жоўтага лісця...

*

Назбіраў букет
з жоўтых лісцяў пад клёнам,
там і пакінуў...

*

Лісце пад дажджом
яшчэ больш залатое
і вогненнае...

*

Вельмі павольна
мутнеюць акуляры –
далікатны дождж...

*

У цемры качкі
пакрэктваюць – скардзяцца
небу на холад...

*

Халодна. Чарка,
другая, трэцяя... Вось
моцна напіўся.

*

Халады, дажджы,
мой таварыш зноў запіў...
Усе навіны...

*

Сябра кінуў піць.
Сядзім, дождж слухаем, су-
муем і маўчым.

*

Як не спыніцца?
На залатой лістоце
шэрае пяро...

*

Кілім з лістоты,
ні сцежкі, ні дарожкі
ў парку не знайсці...

*

Краем вока... Ліст...
З ліпы ліст ляціць-ляціць...
Не ліст, сініца...

*

Парк пасля дажджу,
птушыныя галасы
асцярожныя...

*

Пад шэрым дажджом
танцы з парасонамі
распачаліся...

*

Чырвонашчокі
прадавец белых грыбоў
курыць цыгарку...

*

Горад пад дажджом
зарос парасонамі,
як лес грыбамі...

*

Сняданак кату –
на кляновым лісціку
кавалак рыбы...

*

Заваконны дождж,
цёплы гарохавы суп –
шчаслівы вечар...

*

На месцы лужын
ледзяныя медузы...
Поўня ў аблоках...

*

Холад і голад,
сініца дзяўбе ў шыбу –
зноў просіць семку...

*Хайку, напісаныя ў старой Вільні*

*

Пад дробным дажджом
з касцёла ў касцёл, быццам
у наступным – Бог...

*

Раніцай пахне
дровамі і дымамі
віленскі дождж ык...

*

Травы і дрэвы
ў шэрым густым тумане
паспакайнелі...

*

На лаўцы ў парку
дапівае бутэльку
п’яны пад дажджом...

# КАЛЯДЫ

*

Калядны ранак,
сонечна пасля дажджоў
нават на душы...

*

За цёмным акном
калядны дождж шапоча,
сушу парасон...

# НОВЫ ГОД

*

Шэрае неба
сыпле-падсыпае снег
праднавагодні...

*

Сусед-п’яніца
раптам вярнуў пазыку –
цэлых пяць рублёў...

*

Пагуляў з катом,
драпіна ад кіпцюра
зачырванела...

*

У старым доме
пахне свежым рамонтам
адна кватэра...

*

У новым годзе
прышываю гузікі
на стары халат...

*

З гары на гару
хмары, нібы мядзведзі,
перапаўзаюць...

*

Свежы краявід,
набіраю паветра
поўныя грудзі...

*

Ранак, Новы год,
пляшкі на свежым снезе
адпачываюць...

*

Як нізка ляціць
праз падземны пераход
пярэсты голуб...

*

Поўня над Вільняй
цвярозая, як і я
ў сваёй самоце...

*

Радуе вока
звычайны дарожны знак
з чорным аленем...

*Верш, напісаны на нейтральнай паласе*

*

Пераехаў мяжу,
а поўня засталася
над Беларуссю...

# Кароткая біяграфія Адама Глобуса

Адам Глобус (Уладзімір Адамчык) нарадзіўся 29 верасня 1958 году ў сям'і пісьменніка Вячаслава Адамчыка і бібліятэкаркі Ніны Глобус у мястэчку Койданава. З 1959 года ён жыве ў Мінску. Скончыў педагагічнае аддзяленне Мінскага мастацкага вучылішча ў 1977 годзе і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут у 1983. Вучыўся ў вядомых мастакоў Альгерда Малішэўскага і Гаўрыіла Вашчанкі. Працаваў чарцёжнікам, мастаком-рэстаўратарам, мастаком-афарміцелем, рэдактарам у часопісах «Родник-Крыніца» і «Бярозка». Доўгі час займаўся выдавецкай дзейнасцю. Бібліяграфія Адама Глобуса мае 35 арыгінальных кніжак.

# Змест

ЗІМА

ВЯСНА

ЛЕТА

## ВОСЕНЬ

## КАЛЯДЫ



## НОВЫ ГОД

**Глобус**, А.
Г54 Сняжынка. Зборнік хайку / Адам Глобус. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2022. — 78 с.
ISBN 978-985-23-0195-4.

Першая публікацыя хайку Адама Глобуса адбылася ў далёкім 1983 годзе ў часопісе «Бярозка», з таго часу ягоныя вершы з сямнаццаці складоў друкаваліся ў розных краінах і на розных мовах, нават на радзіме хайку – у Японіі – яны з'яўляліся ў часопісах і альманахах. За сорак гадоў працы ў жанры хайку Адам Глобус напісаў і надрукаваў шмат такіх вершаў, але ўпершыню яны сабраны пад вокладкай адной невялікай кнігі з прахалоднай і паўночнай назвай «Сняжынка».

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Адам Глобус

**СНЯЖЫНКА**

*Зборнік хайку*

Адказны за выпуск *Зміцер Колас.*

+18

Падпісана ў друк 07.11.2022. Фармат 60×90 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 1,76. Ум. друк. арк. 2,44.
Наклад 99 асобнікаў. Замова № 46.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.